## КРОНІКА ТЫДНЯ Ў ПАДЗЕЯХ І ФАКТАХ

**Яшчэ адзін магілёвец паехаў у Менск умацоўваць дзяржаўнае кіраўніцтва**. Апошні, перад прыпыненьнем дзейнасьці камуністычных структураў, першы сакратар абкаму КПБ Вадзім Папоў непрыкметна працаваў генэральным дырэктарам магілёўскага акцыянэрнага таварыства «Аграмашсэрвіс». Зараз ён прызначаны намесьнікам міністра сельскай гаспадаркі. Па меркаваньні людзей, што яго добра ведаюць, Вадзім Папоў заўсёды быў больш гаспадарнікам, чым палітыкам. Аднак выхаваная за гады партыйнае кар'еры бездакорнасьць цалкам пазбавіла яго такой якасьці як самастойнасьць. Па ўсяму відаць, асабліва пасьля Лявонава, менавіта такія людзі зараз патрэбныя прэзыдэнту.

**Узбуджаная крымінальная справа па факту ўтойваньня даходаў** у магілёўскім шлюбным салоне «Гімэнэй». Хаця лічыцца, што сапраўдныя шлюбы зьдзяйсьняюцца ў нябёсах, уладальнікам зямных пячаткаў цяжка ўстрымацца, каб не займець свайго празаічнага, але надзейнага «кавалка шчасьця».

**«Прэзыдэнцкі» Шклоўскі раён нічым асаблівым** не адрозьніваецца ад астатніх. Па выніках нядаўняй праверкі сталася вядома, што, напрыклад, толькі ў 5 гаспадарках наладжанае абслугоўваньне тэхнікі. У калгасе «Перамога» бульба гніе ў буртах, у калгасе імя Карла Маркса ўгнаеньні ляжаць пад небам, у калгасе «Чырвоны кастрычнік» за 2 месяцы палі амаль 100 цялятак, у саўгасе «Запаветы Ільіча» фэрмы тонуць у гноі... Тым часам наезжыя менскія начальнікі цікавяцца толькі адным пытаньнем: як ідзе падрыхтоўка да сёлетніх Дажынак'99. Шклоў, як вядома, вызначаны цэнтрам правядзеньня гэтага пампэзнага мерапрыемства.

**У Чэрыкаўскім раёне выяўленых жыхары, якія маюць** небясьпечныя дозы ўнутранага абпраменьваньня. Такіх людзей у райцэнтры 9, па вёсках – 12, зь якіх – 2 дзіцяці. Атруту людзі накопліваюць за кошт ужываньня малака, грыбоў, ягадаў, скарыстаньня на дровы паленьняў са сваіх лясоў.

**На 100 шлюбаў у Крычаўскім раёне прыпадае 107 разводаў**. Менш нараджаецца дзяцей. Больш людзей памірае. (Крычаў трапіў у нашую інфармацыйную падборку выпадкова: раёнка апублікавала гэтую сумную статыстыку.) Такая сытуацыя насамрэч па ўсёй краіне.

**Кандыдатамі ў дэпутаты Хоцімскага раённага савета** на маючых адбыцца мясцовых выбарах зарэгістраваныя 31 чалавек на 30 акругаў. (Не пашанцавала толькі адной зь іх, дзе будуць «змагацца» два прэтэндэнта). У ліку кандыдатаў: старшыняў калгасаў – 7, дырэктараў прадпрыемстваў і арганізацыяў – 9, дырэктараў школ – 7, адказных работнікаў выканаўчай улады – 8. Яшчэ адна акалічнасьць зьвяртае на сябе ўвагу: усе кандыдаты беспартыйныя. Нічым істотным гэтыя дадзеныя не адрозьніваюцца ад «паказчыкаў» у іншых раёнах.

**У Горацкім раёне па выніках мінулага года** 10% прадпрыемстваў стратныя. Сельскагаспадарчы сэктар ня выканаў ніводнага жыццёва важкага паказчыка. Стоячы на месцы «разьвівалася» будаўніцтва. Адзіны паказчык у параўнаньні з папярэднім годам палепшаны: вырасла заработная плата. Хаця і тут засмучэньне: рэальныя даходы насельніцтва да вызначаных паказчыкаў не дацягнулі.

**Сэсія Дрыбінскага райсавета прыняла рашэньне** аб уводзе мясцовых падаткаў. Вырашана забіраць па 2% ад даходаў прадпрыемстваў на «разьвіцьцё інфрастуктур», а з «фізычных асобаў» зьбіраць адпаведныя грошы на «добраўпарадкаваньне» населеных пунктаў. Уладальнікі коней да таго-ж будуць скідваца цяпер на «паляпшэньне пашы».

*Інфармацыйная служба «ТМ»*

КРОНІКА ТЫДНЯ Ў ПАДЗЕЯХ І ФАКТАХ

## ПРА ТОЕ, ШТО ХВАЛЮЕ

*Чарговы госьць нашае рубрыкі – галоўны рэдактар газэты «Наша Ніва» Сяргей Дубавец, вядомы беларускі журналіст, выдавец і літаратурны крытык.*



**Мяне хвалюе тое, што літаральна ва ўсіх галінах нашага жыцьця (і агульнага, і прыватнага) адбываецца няспынны рух уніз, падзеньне. Найперш я маю на ўвазе даходы людзей – як матэрыяльныя, так і маральныя, і разумовыя. З кожным днём у нашых дачыненьнях усё больш губляюць свой кошт розум, сумленьне, прыстойнасьць. А ім на зьмену прыходзяць бяздумнасьць, хлусьня і хамства. Адначасова драбнеюць матэрыяльныя даходы чалавека, які ня здольны думаць, адказваць за сябе і дамагацца сваіх правоў. Няма яек? Людзі ў чарзе вінавацяць прадаўшчыцу. Малы заробак? Вінаваты расейскі крызыс. Падае ўзровень жыцьця? Гэта апазыцыя замінае прэзыдэнту «работаць».**

**А прэзыдэнт, які даўно перадушыў усіх, хто яму «мяшаў», тым часам цынічна маніпулюе сьвядомасьцю народа. Народ не павінен думаць, аналізаваць сваё жыцьцё і бачыць сапраўдныя прычыны заняпаду. Прэзыдэнт паабяцаў сысьці праз два гады, калі жыцьцё ў краіне стане горшаць. Ці хоць адзін чалавек у Беларусі гатовы сказаць, што за апошнія пяць гадоў жыцьцё палепшала? Але людзі ўсё меней супастаўляюць тыя абяцаньні зь цяперашняй рэальнасьцю, людзі менш думаюць.**

**Мяне хвалюе, што мяжы дэградацыі я ня бачу. Дна ў гэтае прорвы не праглядаецца. Тое, што ўлетку ў нас адбудзецца законная зьмена ўлады, сёньня выглядае як добрае пажаданьне. У іншым выпадку, калі пад восень Лукашэнка канчаткова здасьць Беларусь Расеі, што яму трэба, каб замесьці сьляды свайго прэзыдэнцтва і пазьбегнуць адказнасьці, тады ў Беларусі пачнецца другая Югаславія. Кажу пра гэта з горкай пэўнасьцю, бо першы стану ў шэрагі барацьбітоў, каб змагацца за незалежнасьць сваёй Бацькаўшчыны.**

*9 сакавіка 1999 г. Менск.*

## Памяць: Імгненьні й Час

### З фотаархіва © IAP.



*Магілёў, вуліца Першамайская. 1 чэрвеня 1991 года. Дэпутаты Вярхоўнага Савета 12 скліканьня Галіна Сямьдзянава і Зянон Пазьняк шпацыруюць у атачэньні жыхароў гораду.*

### ГАРТАЮЧЫ АФІЦЫЙНЫЯ ДАКУМЭНТЫ

## «Орыентировка» як адлюстраваньне сёньняшняй улады



Пятнаццаць старонак тэксту пад назовам **«Ориентировка для групп, выступающих перед населением»**, складзенага пад значным уплывам адпаведных дакумэнтаў камуністычна-савецкіх часоў, на чыноўніцка-расейскай мове даводзяць сучасным агітатарам і прапагандыстам канцэптуальныя погляды Галоўнага ўпраўленьня грамадзка-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі прэзыдэнта РБ. Спэктар пытаньняў тут даволі шырокі. Згодна гэтае арыентыроўкі, самая важкая палітычная падзея бліжэйшае будучыні – выбары ў мясцовыя Саветы. Па даручэньню прэзыдэнта РБ з 10 па 25 сакавіка праводзіцца **«единый день»** інфармаваньня насельніцтва. Ягоная тэма: **«Выборы в местные органы власти – новый этап совершенствования белорусской демократии»**. Дарэчы, сярод іншых **«единых дней»**, зацьверджаных уладай на 1999 г., ёсьць наступныя: **«Апрель. Беларусь и Россия: от Союза к единому союзному государству. О ходе подготовки к весенне-полевым работам. Май. Подвиг народа бессмертен. Август. Семья – основная ячейка общества. Октябрь. Октябрьская революция – путь к прогрессу»**...

Паводле тэксту, чарговы ўгодкі БНР, якая была абвешчаная **«только на словах»**, паспрабуюць адзначыць нейкія **«свядомные белорусы»**. Таму трэба **«упреждать события»** праз узмацненьне тлумачальнай працы ў працоўных калектывах. Цікавай падалася згадка пра байкот мясцовых выбараў з боку дэмакратычных партыяў. Аказваецца, што **«в этих так называемых жалобах немало лукавства»**. Далей гаворыцца пра тое, што ў апазыцыі дастаткова моцныя ўласныя мэханізмы, у тым ліку й інфармацыйная **«база»**, а таксама разгалінаваная партыйная **«оргструктура»**, і тут-жа дадаецца: **«если она, конечно, у них есть...»**. Аднак аўтары дапаможніка ўпэўнена сьцьвярджаюць, што ўсе плюсы апазыцыі агулам **«не так уж сильно уступают»** магчымасьцям рэжымных СМІ.

Ніякіх абгрунтаваных фактаў гэтае прапагандысцкае пасланьне, зразумела, ня ўтрымлівае. Чытаючы яго, абсалютна немагчыма сабе ўявіць, якое дачыненьне мае яно да рэальнага, а ня выдуманага жыцьця. А таксама – якім чынам яно дапаможа канкрэтнаму кіраўніку любога беларускага прадпрыемства ці працоўнаму калектыву? Зрэшты, для правядзеньня гэткае тлумачальнае працы, **«чтобы народ сплачивался»**, новых-старых кадраў у нас пакуль хапае.

*Рэдакцыйны АГЛЯДАЛЬНІК пошты й друку*

